# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 52 (565) ГОД XI БЕЛАСТОК, 25 СНЕЖНЯ 1966 г. ЦАНА 60 гр.


У НУМАРЫ У НУМАРЫ



## З ЖЫЦЦЯ БГКТ

### КАНФЕРЭНЦЫЯ САКОЛЬСКАГА АДДЗЕЛА

9 снежня гэтага года адбылася канферэнцыя Сакольскага аддзела БГКТ. На яе былі запрошаны старшыні і сакратары гурткоў БГКТ, прадстаўнікі павятовых улад, а таксама ў паразуменні з Павятовым камітэтам ПАРП прыбылі сакратары грамадскіх камітэтаў і сакратары некаторых партыйных арганізацый ПАРП з тых мясцовасцей, у якіх разгортвае працу БГКТ. Мэта канферэнцыі была наступная: «Заданні БГКТ на зімовы перыяд».

Прачытаў іх старшыня аддзела Аляксандр Рафаловіч. У яго дакладзе галоўны націск быў пакладзены на развіццё аматарскага руху, на рост арганізацыі і аплачванне членскіх складчын, на пабольшванне падпісчыкаў «Нівы», на неабходнасць абслужвання вясковых гурткоў праз актыў аддзела. З даклада і з дыскусіі вынікала, што мастацкай самадзейнасцю ў апошнім часе жывуць толькі гурткі ў Крушынянах і Піражках.

У час дыскусіі шмат увагі звярталася на беларускае школьніцтва, на атмасферу мала спрыяльную да навучання роднай мовы. Гэтым справам прысвяціў сваё выступленне прадстаўнік КП, сакратар гарадскога камітэта ПАРП у Саколцы, Яўген Аўгустынчык. Прадстаўнік аддзела асветы грам. Карпеня запрапанавала арганізаваць у Саколцы навучанне беларускай мовы.

Сакратары грамадскіх камітэтаў ПАРП звярталі ўвагу на неабходнасць супрацоўніцтва БГКТ з іншымі арганізацыямі, а перш за ўсё маладзёжнымі. Канферэнцыю ў Саколцы абслугоўваў сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк.

(мх)

### АБ ПАСТУЛАТАХ У АДРАС «НІВЫ»

Як мы ўжо паведамлялі, апошняе пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ правodзіла ацэнку «Нівы», на якім былі ўзняты некаторыя цікавыя прапановы і пастулаты ў адрас рэдакцыі. У сувязі з гэтым 12 снежня гэтага года Прэзідыум ГП БГКТ супольна з рэдакцыйнай калегіяй «Нівы» абмеркавалі спосабы рэалізацыі гэтых прапаноў і пастулатаў.

Пастаноўлена, што рэдакцыя «Нівы» супольна з ГП пачыніць шэраг крокаў адносна павелічэння падпісчыкаў «Нівы». Перш за ўсё супольныя намаганні ахопяць тыя раёны беларускага асяроддзя, дзе вельмі мала, або зусім няма падпісчыкаў. З гэтай мэтай у тыя мясцовасці ГП будзе накіроўваць эстраду «Лявоніха» і кінаперасоўку. Перад канцэртамі і фільмамі будуць праводзіцца гутаркі аб «Ніве» і аб неабходнасці падпіскі на часопіс на роднай мове. Журналісты «Нівы» пачнуць больш пісаць аб хвалюючых справах тых аколіц.

Рэдакцыя пастанавіла ў кожным павеце ў час квартальных нарад паштоўцаў уручаць рэчавыя ўзнагароды пісьманосцам за вынікі ў пашырэнні падпісчыкаў. Рэдакцыя зробіць намаганні адносна пашырэння сеткі вясковых карэспандэнтаў, паляпшэнні якасці здымак і якасці публікаваных матэрыялаў.

(мх)

НАШЫМ ЧЫТАЧАМ І СІМПАТЫКАМ ШЛЕМ САРДЭЧНЫЯ СВЯТОЧНЫЯ ПАЖАДАННІ.

НІВА




Вераніка Трапачынская-Агарак у 1938 годзе.

## САРДЭЧНЫ СЯБАР БЕЛАРУСАЎ

*Інтэрв'ю з дачкой Веранікі Трапачынскай — Агарак — навуковым працаўніком япаністыкі Варшаўскага ўніверсітэта, Галінай Агарак — Чой.*

1. Ваша Маці з'яўляецца аўтарам хвалюючай кніжкі аб Беларусі. У сувязі з тым хочам звярнуцца да Вас з просьбаю адказаць на некалькі пытанняў. На пачатку мы хацелі б пачуць, якім з'яўляецца генезіс «Лясных Долаў»?

«Лясныя Долы» адносяцца да таго тыпу кніг, якія павінны быць напісаны, таму што тэма «ходзіць» за пісьменнікам. Перажыванні першых гадоў самастойнага жыцця і працы на беларускай вёсцы, уласціва складзеная ацэнка таго, што там адбывалася ў гэтым часе, чароўнасць беларускага краявіду, які запамятаўся раз на заўсёды, прыгажосць беларускіх народных песень, усё гэта «шукала сабе выхаду» і сталася напэўна імпульсам для напісання гэтай аповесці.

2. У «Лясных Долах» адчуваецца ад пачатку да канца пачуццё вялікай сардэчнасці, якім дарыць аўтар сваіх галоўных герояў. Маецца нават уражанне, што пісьменнік ідэалізуе постаці беларусаў і асабліва дзяцей. Чым можна растлумачыць такі стан рэчаў?

Мне цяжка аўтарытатыўна выказацца на гэту тэму. Несумненна, цёплыя адносіны да беларускай вёскі і яе прадстаўнікоў — гэта выпадковая асабістых уражанняў і пазнейшага прадумання. Думаю таксама, што Маці спецыяльна крыху ідэалізавала беларусаў, каб тым больш востра выступілі рысы людзей, якія прадстаўлялі ўладу і палітыку тагачаснай польскай дзяржавы адносна нацыянальнай меншасці.

Адносна дзіцячых постацей — мне здаецца, што знайшлі тут сваё адлюстраванне адносіны Маці да дзяцей наогул. Адносілася да іх сур'ёзна, як да «малых людзей», умела ўнікнуць у свет іх перажыванняў і летуценняў, да кож-

(Працяг на стар. 5)

## ШТО РОБІЦЦА З НАШЫМІ ГАСПАДАРКАМІ?

Нашы гаспадаркі, нашы гаспадарачкі: хата, хлеў ды гумно (клуня). Не кожны мае гумно. А за гумнамі каменістыя палоскі аж па небакрай.

Здавалася б, няма ўжо на свеце такіх, што пагналіся б за гаспадаркаю. З кім не пагавары, ніхто не хоча зямлі. Аднак, усё гэта і так, і не. Заўважаем, што адбываецца дзяльба гаспадарак, дзяльба зямлі. У Сакольскім павеце за апошнія пяць гадоў налічана васемсот пятнаццаць гаспадарак, велічынёю па паўгектара зямлі! Мо' гэта і смешнае, але праўдзівае. А гаспадарак велічынёю ад двух да пяці гектараў стала **менш**, многа менш, бо аж на 236. Гэтаксама — бо на 128 — паменшаў лік гаспадарак, велічынёю ад пяці да сямі гектараў.

Гаспадаркі драбнеюць.

Па павятовых «ужэндах» валэндаюцца тысячы спраў, звязаныя з дзяльбою. Спецыяльна падкрэсліваю тут усходнія паветы. У заходніх паветах ваяводства бацькоўская дзяльба гаспадаркі невядомая, прапала даўно. Там аб усім рашае суд, ён прызнае або не прызнае таму ці другому сыну частку бацькаўшчыны. У нас гаспадарку дзеліць бацька, усім сынам больш-менш па роўнай частцы, хаця і малой. Адсюль бяруцца малыя гаспадаркі, ад якіх няма нікому карысці — ні гаспадару, ні «ужэндаві».

У Беластоку паўжартам кажуць, што ва ўсходніх паветах трэба наняць дадатковых «ужэнднікаў» да разгляду бацькоўскіх дзельбаў гаспадарак. Улады маюць жаль да натарыусаў, якія лёгкадумна даюць правамоцнасць такой дзяльбе.

Павелічэнне колькасці малых гаспадарачак можа насунуць думку, што замала маем зямлі, ёсць голад на зямлю. Нічога падобнага! Ляжаць тысячы гектараў аблогаў, зусім пакінутых гаспадарак. Нягледзячы на гэта, родзяцца новыя гаспадарачкі. І ў гэтым месцы натыкаемся на звычайную людскую хітрасць, хаця і смутную: ляпей працаваць на пару гаспадарачках, чым на адной гаспадарцы, на якую шлюць больш падатак. Гэта па-першае. А, па-другое, той сын, які застаецца на бацькаўшчыне, вымушаны няпісаным сямейным законам даваць рэкампенсату сваім братам і сёстрам, што жывуць у горадзе, і яны як бы пакінулі яму, так сказаць, свае часці гаспадаркі.

Гаспадар, маючы сыноў і дочак у горадзе, дзеліць на іх па пару гектараў, бы пасаг. Але зямлю абрабляе сам. Карысць з гэтакай дзяльбы такая, што прыходзяць меншыя падаткі на ўсе гэтыя паругектаровыя гаспадарачкі, якія фактычна з'яўляюцца адною гаспадаркаю.

(Працяг на стар. 4)

## У нацыянальнай камісіі пры ВК ПАРП

6 снежня г.г. у Гайнаўцы адбылося выязное пасяджэнне Нацыянальнай камісіі пры Ваяводскім камітэце Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку.

У парадку дня стаялі: інфармацыя аб працы Гайнаўскага праўлення аддзела БГКТ і інфармацыя аб рэалізацыі пастаноў экзекутывы ВК ПАРП у Беластоку з дня 19. II. 1965 г. адносна напрамкаў дзейнасці нацыянальных таварыстваў. Працу Гайнаўскага праўлення БГКТ, як і рэалізацыю пастаноў экзекутывы Ваяводскага камітэта, камісія ацаніла станоўча. У дыскусіі над недахопамі ў працы нашага таварыства на Гайнаўшчыне выдзяліліся дзве асноўныя справы: недастатковы кантакт праўлення з гурткамі і неабходнасць ахапіць апекай калектывы мастацкай самадзейнасці, якія адчуваюць у гэтым вялікую патрэбу, асабліва ў забеспячэнні іх добрым рэпертуарам.

З іншых цікавейшых прапаноў, якія паставілі ўдзельнікі нарады, гэта прапановы арганізаваць у Беластоку штогадовыя агляды нацыянальных калектываў мастацкай самадзейнасці, на якіх паасобныя таварыствы паказвалі б вынікі сваёй працы ў гэтай галіне, і стварэнне ў Беластоку Дома дружбы, у якім знайшлі б месца для працы ўсе дзейнічаючыя ў ваяводстве нацыянальныя таварыствы.

## Новыя вершы

Максім Танк

*

*Сэрца маё — суверэнная дзяржава.*
*У ім заўсёды прыстанішча мелі*
*Людзі, пазбаўленыя нелюдзямі права,*
*Сцягі, што на барыкадах гарэлі.*

*Думы, якім кайданы гразілі,*
*Песні, якіх у сусветных абшарах*
*Шукаюць варожыя эскадрыллі,*
*Занепакоеныя радары.*

*Сэрца маё да канца, пакуль б'ецца,*
*Будзе прыстанішчам ад гора.*
*Сёння ў ім спяць В'етнама дзеці*
*Пасля амерыканскіх бамбардзіровак.*

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Камэнтары • Весткі

## СВЕТ

### ЭСКАЛАЦЫЯ ЦЫНІЗМУ

Амерыканскія налёты на сталіцу Дэмакратычнай Рэпублікі В'етнама **ўстрасянулі** не толькі **сусветнай грамадскай думкаю,** але і **сумленнем.** Падаючыя бомбы на шчыльна заселеныя раёны Ганоі сведчаць не толькі аб эскалацыі агрэсіі, але і эскалацыі цынізму.

ЗША імкнуцца пераўтварыць сваю агрэсію ў В'етнаме ў міжнародную вайну. Звярнуліся яны да **Турцыі,** каб тая прыняла ўдзел у вайне. Але тут пачулі адказ: **«не можа быць нават і мовы аб высылцы турэцкай арміі ў В'етнам».** Прадстаўнік турэцкага ўрада заявіў, што Турцыі разыходзіцца аб тое, каб мець магчыма найлепшыя суадносіны з суседзямі, у тым з СССР і іншымі краінамі Усходу.

### ДЭКЛАРАЦЫЯ КІЗІНГЕРА

Пакуль што цяжка акрэсліць палітыку новага ўрада ФРГ, і з ацэнкай яе трэба будзе пачакаць, таму што **ў дэкларацыі няма канкрэтаў і ёсць вельмі многа недагаворак.** У дэкларацыі адчуваецца **новую форму, новы стыль,** але **старую палітыку.** Кізінгер адкінуў старыя фармуліроўкі, гаварыў аб пакутах польскага народа, але заявіў, што справы граніцы павінны быць узгоднены з будучай «агульнагерманскай дзяржавай». ФРГ, гаворыцца ў дэкларацыі, рэзігнуе з уладання нацыянальнай атамнай зброяй (бо на гэта не згодзіцца ніякая дзяржава), але нічога не ўспамінаецца аб тым, што ёсць іншыя дарогі доступу да тэрмаядзернай зброі ФРГ. Трэба дадаць, што Кізінгер усё гаварыў вельмі гладка. З'яўляецца ён дасканалым аратарам. Свайго часу напісаў і апублікаваў нават томік паэзіі. **Але аб палітыцы сведчаць не словы, а ўчынкі.**

### У СССР

Больш чым паўтары тысячы дэпутатаў Вярхоўнага Савета СССР прыймала ўдзел у другой сесіі савецкага парламента. На сесіі зацверджана асноўныя дакументы, якія датычаць савецкай гаспадаркі ў наступным годзе. Савецкі ўрад, з погляду на завостраную міжнародную абстаноўку выкліканую агрэсіяй ЗША ў В'етнаме, у будучым годзе павялічвае свой ваенны бюджэт з **13,4** мільярда да **14,5** мільярда рублёў.

Міма таго правільнае развіццё гаспадаркі СССР дасць магчымасць у 1967 годзе **павялічыць заработкі і даходы** ў сярэднім **на 6,7%.**

### НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ

Сакратарыят ЦК Камуністычнай партыі Славакіі стварыў спецыяльную рабочую групу, якая будзе займацца сітуацыяй насельніцтва вянгерскага паходжання, якое жыве ў Славакіі.

### МАРШАЛЫ Ў ФІЛЬМЕ

Маршалы **Г. Жукаў, І. Конеў і К. Ракасоўскі** выступяць у фільме аб Маскоўскай бітве. Будзе ён складацца як бы з трох частак: дакументальныя здымкі, сцэны цяперашніх кіназдымак, дзе разыгрываліся асноўныя баі, і з размоў-успамінаў трох маршалаў. **А. К.**

## БССР

### ПРАЕКТ

Бюро ЦК КП Беларусі і Савет Міністраў БССР разгледзелі праект плана развіцця народнай гаспадаркі Беларусі на 1967 г. Узята пад увагу найноўшыя метады кіравання прамысловасцю.

### ФЕСТЫВАЛЬ

На Беларусі адбываецца фестываль мастацкай самадзейнасці, прысвечаны 50-годдзю Савецкай улады.

### УСТАНОЎЧЫ

У Мінску 7 снежня г. г. адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

### КАЛІНІН

12 снежня раптоўна памёр на 65 годзе жыцця Пятро Калінін — вядомы дзеяч Кампартыі Беларусі, былы начальнік Беларускага штаба партызанскага руху ў час вайны.

Калінін нарадзіўся ў Альхоўцы на Віцебшчыне.

### 40-ГОДДЗЕ

У Віцебску ўрачыста адсвяткавана 40-годдзе мясцовага Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.

### ПРЭМ'ЕРА

У Гродзенскім драматычным тэатры адбылася прэм'ера спектакля «Змацаваныя крывёю». Новая п'еса, напісаная беларускім драматургам Мікалаем Гарулёвым, расказвае аб барацьбе народных мсціўцаў Беларусі з акупантамі, аб нарадзінах дружбы савецкіх людзей з немцамі-антыфашыстамі.

### БРЭСТ

Брэсту спаўняецца 950 год. Паводле старых летапісаў, існаваў ён ужо ў 1017 годзе. Старажытны Брэст знаходзіўся якраз на тым месцы, дзе ўзвышаюцца бастыёны вядомай Брэсцкай крэпасці.

### ДЭБЮТ

У Мінску адбыўся першы сольны канцэрт маладога таленавітага беларускага спевака Віктара Вуячыча. Яго выканаўчае майстэрства ацэньваецца высока. Аднак, як заўважылі газеты, Вуячыч надта рэдка спявае беларускія песні.

### «МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА»

У фондзе рэдкіх кніг Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Леніна выпадкова знойдзена газету «Мужыцкая праўда» і лістоўкі Кастуся Каліноўскага.

«Мужыцкая праўда» друкавалася нелегальна ў Беластоку ў час Студзеньскага паўстання 1863 года.

### НАРАДА

Гомельскі абком Беларускай кампартыі правёў нараду журналістаў, на якой абмяркоўвалася, між іншым, справу паляпшэння вонкавага выгляду газет і іх рэдакцыйнага ўзроўню.

### ЭСПЕРАНТА

У Мінску міжнародную мову эсперанта вывучаюць у некаторых вышэйшых школах і ўстановах. Мінскія эсперантысты падтрымоўваюць сувязі з эсперантыстамі Балгарыі, Венгрыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Англіі, Польшчы, ЗША, Францыі, Чэхаславакіі, Японіі, Новай Зеландыі. **(С. Я.)**

## ПОЛЬШЧА

### ЗАЯВА

У сувязі з варварскімі бамбардзіроўкамі сталіцы Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама польскі ўрад апублікаваў заяву, у якой між іншым чытаем:

«Ад імя ўсяго польскага народа ўрад ПНР патрабуе заканчэння агрэсіі, безагаворачнага ўстрымання зверскіх бамбардзіровак В'етнама амерыканскімі самалётамі, выражае салідарнасць з в'етнамскім народам у яго справядлівай барацьбе за свабоду».

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ МАШЫНЫ

За тры кварталы гэтага года продана гаспадарам сельскагаспадарчых машын за агульную суму 4 645 мільёнаў злотых. За цэлы 1965 год гаспадары закупілі сельскагаспадарчых машын на агульную суму 4 066 мільёнаў злотых.

### ДЗЯРЖАВА ВЁСЦЫ

Сельскагаспадарчы банк супольна з Ашчадна-пазыкавай спулдзельняй (СОП) у гэтым годзе пераказалі вёсцы каля 17,5 мільярда злотых крэдыту на рознага роду інвестыцыі. Большасць пераказаных сродкаў прызначана на будаўніцтва і рамонты.

### КАМУНІКАЦЫЯ Ў ЧАС КАЛЯД

Агулам у перыяд каляд польская чыгунка пусціла ў ход 78 дадатковых цягнікоў, а аўтобусная камунікацыя (ПКС) звыш 1000 аўтобусаў. На многія цягнікі, асабліва экспрэсныя, білеты былі выкуплены задоўга да каляд.

### СТРУКТУРА ЎЗРОСТУ

Галоўнае бюро статыстыкі апрацавала інфармацыю на тэму структуры ўзросту насельніцтва Польшчы.

З інфармацыі вынікае, што ад 1960 года зменшылася колькасць дзяцей ва ўзросце да 4 гадоў з 3 420 000 да 2 766 000. Узрасла тым часам колькасць насельніцтва амаль усіх старэйшых груп. Найбольш прыбыло насельніцтва ў групе ўзросту 15—19 гадоў. Пабольшылася яго на звыш мільён у параўнанні з 1960 годам. (У 1960 г. было 1 934 000, а зараз — 3 023 000).

У 1960 годзе было ў краіне 2 848 000 людзей ва ўзросце звыш 60 гадоў, зараз іх — 3 500 000.

### ВЁСКА І ГОРАД

У сераду 14 снежня выраўнялася ў нашай краіне колькасць людзей пражываючых у горадзе і ў вёсцы (дагэтуль большасць пражывала ў вёсцы). Прынята ўмоўна, што гэтую важную дэмаграфічную падзею сімвалізаваць будзе дзіця, якое народзіцца ў Любіне ў Вроцлаўскім ваяводстве. «Пераломным» нованароджаным аказаўся сын Антонія і Ядвігі Угельскіх, якому дадзена імя Збышак. Прадстаўнікі мясцовых прадпрыемстваў і ўлад уручылі маці кветкі, а нованароджанаму памяшкальную кніжку. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### СКЛАДЧЫНЫ НА ШКОЛЫ І ІНТЭРНАТЫ

Да палавіны месяца снежня грамадзяне Беластоцкага ваяводства поўнасцю выканалі свой гадавы план збору складчын на грамадскі фонд пабудовы школ і інтэрнатаў. Асабліва высокай ахвярнасцю адзначыліся жыхары павстаў: Беластоцкага, Галдапскага, Граеўскага, Ламжынскага, Алецкага, Манецкага і Замбpоўскага. На жаль, шмат адстаюць у актыўнасці нашыя сяляне. Выручылі іх рабочыя прамысловых прадпрыемстваў.

### ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ ЗА 31 МІЛЬ. ЗЛОТЫХ

Доўгі час 28 гарадоў і 99 вёсак спаборнічалі за першынство ў конкурсе «За найчысцейшы горад і найбольш чыстую сядзібу ГРН». Агульная вартасць працы выказанай грамадскім чынам за час трывання конкурсу ацэньваецца на суму ў 31 мільён злотых. Сярод гарадоў найлепшымі аказаліся Аугустаў, Алецка, Цехановец і Бельск. А сярод вёсак першае месца заваявалі Пасынкі ў Бельскім павеце. Аўгустову і Алецку прысвоена 150 тысяч зл. узнагароды, Бельск атрымаў 100 тысяч зл., Гайнаўка і Голдап па 50 тыс. зл. Вёсцы Пасынкі прыпала 70 тысяч зл. узнагароды, а Белавежа атрымала 50 тыс. зл.

### ЗАМЕЖНЫЯ ГОСЦІ

Беласточчыну наведала звыш 20-ціасабовая група эканамістаў і гаспадарчых дзеячоў з Бірмы, Сірыі, Ірака, Індыі, Афганістана, Пакістана, Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі, Судана, Танзаніі, Мексікі, Чыле і Аргенціны. Цікавіліся яны дзейнасцю і арганізацыяй працы беластоцкіх гаспадарчых кааператыўных устаноў. Замежныя госці пабывалі ў спулдзельні «Недзвядэк» і ў Супраслі, дзе знаёміліся з вырабамі мэблевай фабрыкі. Цікавіліся яны таксама арганізацыяй прафесіянальнага школьніцтва, якое рыхтуе кадры для патрэб гаспадарчых кааператываў.

### ГІГІЕНА Ў ВЁСКАХ

Нядаўна Прэзідыум Ваяводскага праўлення Саюза вясковай моладзі на пашыраным пасяджэнні, якое адбылося ў Аўгустове, абмеркаваў складаныя праблемы гігіены і здароўя вясковага насельніцтва. СВМ у гэтай галіне мае даўно ўжо апрацаваную шырокую праграму дзейнасці. Асабліва важнае месца ў гэтай праграме займаюць школы здароўя, якіх у Беластоцкім ваяводстве налічваецца зараз звыш 1200. У пасяджэнні прынялі ўдзел маладыя лекары і прадстаўнікі арганізацыі аховы здароўя.

### КОНКУРС НА ПАМЯТКІ

Аддзел культуры ВРН і Аб'яднанне народных рамеснікаў аб'явіла конкурс на мадэль памятнага вырабу, які ілюстраваў бы Беласточчыну або нейкі яе раён. Конкурс працягваецца да 20 лютага 1967 года. Лічым, што зацікавіць ён нашых Чытачоў, сярод якіх многа ж таленавітых рамеснікаў. (вр)




NIEDZIELA 25. XII.

9.00 „Wielka przygoda" — film fab. szwedzki; 10.30 PKF; 10.40 „Śpiewają Filipinki"; 11.05 „W starym kinie"; 12.05 „Zimowe cuda" („Piórkiem i węglem"); 12.25 „Kolędnicy" — program muzyczny; 13.15 „....w Turcji" — rep. filmowy; 13.35 TV Teatr Lalek; 14.40 „Godzina teatru" — film tv polski; 15.40 „Tele-Echo"; 16.25 „Wesele Fonsia" — komedia; 17.55 „Zagraniczny gość" — film tv pol. („Wojna domowa"); 18.45 „Encyklopedia baletu"; 19.05 „Czasoprzestrzenie"—film tv pol; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Słownik wyrazów obcych; 20.20 „Człowiek z psem" — film („Belphegor czyli upior Luwru"); 20.45 „Alarm w Table Rock" — film fab. USA (western); 22.15 Włoskie melodie rozrywkowe; 22.30 „Balet dla sceptyków" — film.

PONIEDZIAŁEK 26. XII.

11.20 „Arcydzieło" — koncert z zamku Altenburg (Berlin); 12.20 Kino Przygoda: „Dzwonią, otwórzcie drzwi" — film fab. radz. 13.35 Teatr Młodego Widza; 14.35 „Trafił swój na swego" — film; 15.00 „Szklana niedziela"; 15.15 „Telefonistki" — rep. film.; 15.30 Teatr TV. A. Fredro — „Nocleg w Apeninach"; 16.35 „Szklana niedziela" (II), 16.45 „Napoleon i jego epoka" — teleturniej; 17.45 Studio 63; A. Mickiewicz — „Pan Tadeusz"; 18.30 Francuskie melodie rozrywkowe; 19.00 „Szklana niedziela" (III); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Czarno na białym" — program rozrywkowy wokalno - taneczny; 21.00 „Milioner bez grosza" — film fab. ang; 22.30 Wiadomości sportowe.

WTOREK 27. XII.

9.00 Teleferie: „Załoga" — film („Czterej pancerni i pies") odc. I; 11.00 „Yokmok" — film fab. pol; 15.25 „Przypominamy, radzimy"; 16.00 Teleferie: 1. „Liga Entuzjastów Wakacji", 2. „Los companieros" — film radz.; 17.15 Wiadomości dz.; 17.20 Film; 17.35 Kabaret reklamowy; 18.05 „Czas nauki" — film CSRS; 18.20 „Giełda piosenki"; 18.50 „Bryza"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „W laboratorium sztuki" — film dok; 20.10 Film; 20.50 „Yokmok" — film fab. pol.; 22.25 Dzien. TV.

ŚRODA 28. XII.

9.00 Teleferie: „Radość i gorycz" — film tv pol. („Czterej pancerni i pies") odc. II; 11.00 „Trudna decyzja" — film („Dr Kildare"); 15.30 39 lekcja jęz. ang; 16.00 Teleferie: 1. „Program z usterką" J. Wilkowskiego („Ula i świat"), 2 „Disneyland" — film; 17.05 Wiadomości dz; 17.10 „Przypominamy, radzimy"; 17.20 PKF; 17.30 „Nie tylko dla pań"; 17.50 Wszechnica TV: „Za kierownicą"; 18.20 „Spotkanie z cieniem" — program muzyczny; 18.55 „Inwestycje"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Trudna decyzja" — film („Dr Kildare"); 21.05 „Światowid"; 21.35 Teatr TV: John Millington Synge — „Jeźdźcy do morza"; 22.15 Dziennik TV; 22.35 39 lekcja jęz. ang.

CZWARTEK 29. XII.

9.00 Teleferie: „Gdzie my, tam granica" — film tv pol. („Czterej pancerni i pies"); 15.25 Kurs Rolniczy: „Produkcja roślin pastewnych w plonie głównym" („Produkcja pasz w gospodarstwie"); 16.00 Teleferie: 1. Magazyn zainteresowań „Telemikrus", 2. „Ślepy pelikan" — film radz.; 17.45 Wiadomości dz.; 18.10 „Kwadrans zagadek"; 18.25 „Karnawał na Kubie" — film kanad.; 18.55 „Cennik złudzeń"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Złota salamandra" — film fab. ang.; 21.35 „Jesteśmy egoistami" — program Red. Młodzieżowej; 22.05 Dziennik TV.

PIĄTEK 30. XII.

9.00 Teleferie: „Psi pazur" — film tv pol. („Czterej pancerni i pies") odc. IV; 16.00 Teleferie: 1. „Miś z okienka", 2. „Kozucha kłamczucha", 3. „Disneyland" — film USA; 17.10 Program tygodnia; 17.30 Wiadomości dz; 17.35 „Dowód rzeczowy" — film („Bella i Sebastian"); 18.00 „Randez vous Narodów" — rep. film. ze Szwajcarii; 18.25 „Wielokropek"; 18.45 Magazyn Medyczny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 „10 minut recenzji"; 20.30 Poznański Teatr TV: P. Marivaux — „Szkoła miłości"; 21.30 „Giełda reporterów"; 22.00 Dziennik TV;

SOBOTA 31. XII.

10.00 „Od Antwerpii do Tahiti" — film dokumentalny franc.; 16.05 Teleferie: 1. „Zabawa w karnawale", 2. „Niewidzialna reka" — film pol.; 17.25 Wiadomości dz.; 17.35 „W Sylwestrowy wieczór" — filmowy progr. estradowy radz.; 18.30 „Warszawa, ja i Ty"; 19.00 „Przeboje roku" (I) prowadzenie L. Kydryński; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 Przemówienie Noworoczne; 20.10 Film; 20.20 „Przeboje roku" (II); 20.35 „Czarne światło" — film („Belphegor czyli upiór Luwru"); 21.00 „Divertimento Op. 4" — Mały Kabaret J. Przybory; 21.45 Dziennik TV; 22.00 „Dwa żebra Adama" — film fab. pol; 23.55 „Przeboje roku" (III); 0.00 Powitanie Nowego Roku; 0.05 Program rozrywkowy; 1.05 „Las Vegas" — filmowy program rozrywkowy; 2.10 „Big beat w kosmosie" — film ang.




**23 снежня, пятніца**

15.20 — для школьнікаў. Кузьма Чорны; 16.30 — «Подзвігі нашых землякоў»; 19.00 — «Певень». Мастацкі фільм.

**24 снежня, субота**

14.50 — для малышоў. «Мядзведзік на дарозе». Мультыплікацыйны фільм; 17.00 — «Бягуць дарогі». Тэлевізійны спектакль. Першая серыя; 19.00 — «На агеньчык»; 20.00 — «Тэлевізійнае акно сатыры».

**25 снежня, нядзеля**

10.55 — хакей. «Дынама» (Масква) — СКА (Свярдлоўск); 13.30 — для воінаў Савецкай Арміі і флоту; 14.00 — «Эстрада — 66»; 16.10 — «Свет сёння»; 17.00 — «Бягуць дарогі». Другая серыя; 19.00 — «Вядомыя спевакі». Марыя Чабатары.

# ЯНЫ НЕ СТАЛІ НА КАЛЕНІ

Нядаўна выдавецтва Беларусь у Мінску выдала на рускай мове зборнік успамінаў і дакументаў аб канцлагеры Бярозе Картузскай пад загалоўкам «Яны не сталі на калені». Кніжка гэта аб мужнасці і стойкасці, аб сіле дружбы і аб інтэрнацыянальнай салідарнасці. Канцлагер быў створаны ў другой палавіне ліпеня 1932 года і праіснаваў да 17 верасня 1939 года. За гэты час праз гэты лагер па няпоўных даных прайшло 10 тысяч чалавек: беларусаў і рускіх, яўрэяў і ўкраінцаў, палякаў і літоўцаў. У большасці былі гэта камуністы (члены КПЗБ, КПЗУ і КПП) камсамольцы і беспартыйныя антыфашысты, дзеячы левых прафсаюзаў даваеннай Польшчы, радыкальныя «людоўцы» — змагары супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.

Аб утварэнні канцлагера, аб рэжыме існуючым у ім, аб муках і мужнасці вязняў-камуністаў, аб рэвалюцыйнай барацьбе — шчыра і ўсхвалявана расказваюць у кніжцы 40 чалавек, якія былі непасрэднымі ўдзельнікамі падзей. Успаміны ярка і пераканаўча паказваюць, што фашысцкаму рэжыму не ўдалося пазбавіць вязняў чалавечай годнасці, падавіць у іх волю да барацьбы. У гэтай барацьбе вялікую ролю адыгралі падпольныя камуністычныя тройкі і найбольш устойлівыя камуністы. Сільныя воляй і духам рэвалюцыянеры ўнушалі засуджаным веру ў правату сваёй справы. Шмат успамінаў гаворыць аб тым, што пралетарская салідарнасць і дапамога вязням Бярозы Картузскай мела міжнародны характар. Братэрскую дапамогу вязням і іх сем'ям аказвалі працоўныя Савецкага Саюза, Францыі, Бельгіі, Канады і другіх краін.

Сярод успамінаў ёсць 5 аўтараў, якія жывуць або жылі на Беласточчыне. Вось яны: Хведар Савіцкі, які дзейнічаў на Бельшчыне, Гіршт Ротбар з Крынак, што на Сакольшчыне, Аляксандр Гаўрылюк і Іван Семянюк з вёскі Забалоцце ў Сямяціцкім павеце і Флор Ляўчук з Вялікіх Тыневіч у Гайнаўскім павеце.

Вялікую цікавасць прадстаўляе сабою асоба Аляксандра Гаўрылюка ўраджэнца Забалоцця. Ён не быў членам КПЗБ, а членам КПЗУ. Гэта таленавіты украінскі паэт, вершы якога ўсхвалявана расказваюць аб здзеках над вязнямі ў Бярозе Картузскай. Словамі з яго верша пачынаецца кніжка. А яны наступныя:

...Надо выдержать, выстоять надо,

Вы сильней, чем стихия, — вы — люди!

У кніжцы вялікую цікаўнасць прадстаўляюць дакументы КПЗБ, КСМЗБ, МОРП-а і матэрыялы з падпольных выданняў КПП і КПЗБ. У зборнік уключаны таксама дакументы: рэзалюцыі і звароты канферэнцый прадстаўнікоў дэмакратычных арганізацый, вядомых грамадскіх дзеячоў і пісьменнікаў Польшчы, членаў сем'яў вязняў канцлагера. Кніжка цікавая, прыгожа аформлена. Варта, каб яна знайшлася ў нашых павятовых і вясковых бібліятэках.

**М. Хмялеўскі**

## Арлянская лячэбніца

Лячэбніца жывёлы ў Орлі мае нязносныя ўмовы да лячэння. Няма дзе ставіць жывёлы, цесны будынак зусім непрыстасаваны да патрэб. Мясцовыя ўлады даўно дамагаюцца пабудаваць лячэбніцу. І што ж, дабіліся толькі абяцанак ад вышэйшых улад, якія ўвесь час цешылі арлянцаў, што лячэбніца будзе пабудавана ў 1966 годзе. А калі прышоў 1966 год і пара разлічыцца з абяцаным, пачалі зноў абяцаць, што ўжо ў 1968 годзе напэўна пачнецца будова. А ці гэта праўда? (мх)

# Вучнёўскі востраў

*Павятовыя Сямяцічы асталіся далёка за намі. Тут звычайная вёска і поле, але зараз за вёскай цэлы камплект высокіх мураваных будынкаў. Гэта Чартаеўскі сельскагаспадарчы тэхнікум.*



**Дырэктарам яго ад 1956 года з'яўляецца інжынер Фелікс Робак. Гаворыць ён: — Маем ўжо 190 выпускнікоў. Працуюць яны ў ПГР-ах і на пасадах грамадскіх аграномаў, некаторыя на ўласных гаспадарках. 15—20% нашых абсальвентаў вучыцца ў вышэйшых сельскагаспадарчых школах. Адзін з іх вярнуўся ўжо да нас з дыпломам і працуе настаўнікам, за год з Ольштына вяртаецца другі.**



**Чартаеўская вучнёўская рэспубліка налічвае цяпер 350 дзяўчат і юнакоў. З'ехаліся яны перш за ўсё з Бельскага, Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў, але знаходзяцца сярод іх таксама вучні з Люблінскага і Варшаўскага ваяводстваў. На адно свабоднае месца апошнім разам выпадала па 5—6 кандыдатаў. Большасць вучняў жыве ў інтэрнаце. Складаюць яны тут своеасаблівы вучнёўскі астравок. Інтэрнат мае ўласны 25-цігектаровы агарод і ўласную гадоўлю. Апрацоўваюць яго вучні. У мінулым школьным годзе даставілі яны ў інтэрнатаўскую сталовую прадуктаў на суму ў 100 тыс. зл. З гэтых прадуктаў дзяўчаты самі рыхтуюць абеды. І за гэта настаўнікі ставяць ім ацэнкі.**



**Кіраўніцтва школы намагаецца, каб інтэрнат быў эканамічна незалежны. Таму дзяўчатам прыходзіцца часта карыстацца швейнымі машынамі. Шыюць яны розныя заслоны і пасцель, і многае іншае, а часам і сабе сукенку.**



**Школьны аркестр завецца: «Чарты». Састаўляюць яго Юрка Баенскі з Мілейчыц, Генрык Свярчэўскі з Сямяціч і Грыша Стэльмашук з Вулькі Тэрахоўскай. Чартаеўскія «Чарты» вельмі папулярныя ў наваколлі.**

**Ёсць у іх яшчэ ўласная цырульня і фоталабараторыя. Вучань, аднак, гэта ж таксама чалавек і бесперапынна вучыцца не можа. Да горада аднак далёка. Дык вучні наладзілі ўласнае кіно. Стась Люкаш, вучань 5-га класа, штотыдзень дэманструе новы поўнаметражны мастацкі фільм. Білет каштуе сімвалічную залатоўку. Прыходзяць паглядзець фільм жыхары вёскі.**



**Астаўляючы чартаеўскі вучнёўскі востраў, я ад'язджаў перакананы ў тым, што там не толькі даюць вучням акрэсленую дозу ведаў, але рыхтуюць іх да самастойнага жыцця.**

**В. Рудчык**
фота аўтара

# Сардэчны сябар беларусаў

(Працяг са стар. 1)

нага дзіцяці ўмела знайсці ўласцівы «ключык».
3. Ці кніжка Вашай Маці з'яўляецца кніжкай зусім аўтэнтычнай, ці таксама элемент фікцыі адыграў у ёй нейкую ролю?
Элемент фікцыі ў аповесці выступае вельмі выразна. Нельга падыходзіць да яе як да аўтабіяграфіі, хаця асабістыя перажыванні і вопыт з перыяду настаўніцкай працы Маці на Беларусі напэўна адыгралі важную ралю ў будове сюжэта аповесці.
Ведаю, што наданне астатковай формы кніжцы папярэдзілі добрасумленныя даследванні над праблематыкай беларускай меншасці ў міжваеннай Польшчы, над формамі нацыянальна-грамадскага руху беларусаў. З запісак Маці на рабочым экземпляры «Лясных Долаў» вынікае, што пастанова напісання гэтай кніжкі была прынята 1. III. 1952 года, падрыхтоўчая праца, збіранне матэрыялаў працягвалася да 15. VIII. 1952 г., а само пісанне да 23. XII. 1952 г. Рабочы загаловак быў такі: «У Лясных Долах забастоўка».
4. Ці Ваша Маці намервалася яшчэ выкарыстоўваць беларускі матэрыял у сваёй творчасці, ці «Лясныя Долы» меліся быць апошнім закрыццём яе беларускіх хваляванняў?
Не прыпамінаю сабе, каб мая Маці ўспамінала што-небудзь аб праектах пісання кніжкі на выключна беларускую тэму. Але ведаю, што мела ў плане гістарычныя аповесці, якія ахаплівалі народна-дэмакратычна-рэвалюцыйныя рухі ўсяе плошчы ранейшай Рэчыпаспалітай XIX стагоддзя. Зразумела, вымушаны былі б затрымацца і пры беларускіх справах. Першая з намеранага гістарычнага цыкла гэта 4-хтомная аповесць «Салдаты Касцюшкі». Наступных ужо не паспела напісаць.
Успомненая ў «Лясных Долах» постаць Францішка Савіча выклікала зацікаўленне часопіса «Літаратура і Мастацтва». Па просьбе рэдактара Сцяпана Александровіча Маці разам са шматлікімі інфармацыямі і матэрыяламі, якія адносіліся да спраў беларускіх у Польшчы, пераслала яму таксама нарыс пра паэта — рэвалюцыянера Францішка Савіча. Нарыс указаўся ў 14 (1081) нумары ад 31 сакавіка 1956 года «Літаратура і Мастацтва» пад загалоўкам «Беларускі паэт — друг польскага рэвалюцыянера».
5. Ці засталіся ў Вас памяткі, якія сведчаць аб побыце Вашай Маці на Беларусі?
На жаль, не. Усё, што мела Маці спрад 1939 года, згарэла разам з домам, у якім мы жылі, у час варшаўскага паўстання. Захаваліся толькі нейкія кавалачкі запісак, але вельмі мала, і нельга іх расчытаць.

**Аляксандр Баршчэўскі**

# Увага непаўналетнія

Непаўналетнія — група малых і маладых людзей, якімі часта мусіць цікавіцца не толькі бацька ці выхавацель — настаўнік, але і суд, міліцыя. Генеральна беручы, небяспеку ствараюць дзве асноўныя групы дзяцей: у дашкольным узросце і тыя, якія кончылі або канчаюць пачатковую школу а часцей за ўсё нідзе не вучацца.

**ПАЖАРЫ...**

...гэта адно з найбольшых няшчасцяў, якое пагражае перад усім драўлянай і часта саломаю крытай вёсцы. Прычыны пажараў розныя. Але найчасцей віноўнікамі з'яўляюцца дзеці іменна ў дашкольным узросце. Часта астаюцца яны без ніякай апекі дома. Мала таго, што астаюцца без апекі, але як адзіныя ігрушкі атрымоўваюць або лёгка самі дастаюць запалкі, агонь. Напрыклад, у Бельскім павеце ў 1965 годзе рознага тыпу пажараў было 17, а страт дзяржава панесла 1 170 800 зл., то за восем месяцаў 1966 г. занатавана 28 пажараў, якія прынеслі страты на 3 022 100 зл. Як паказваюць вынікі следства, толькі ў гэтым годзе 29,6% пажараў было выклікана дзяцьмі.

**ЗЛАЧЫНСТВЫ...**

...гэта другая галіна небяспекі. Маецца тут на ўвазе тых непаўналетніх, якія крадуць, б'юцца і т. п. Калі пажары выклікаюць дзеці не здаючы з таго справы, дык гэтыя аб усім ведаюць і робяць гэта знарок. Для прыкладу лікі з Бельскага павета. На 506 злачынцаў у 1965 годзе аж 85 — гэта юнакі да 17 год. Дрэнная сітуацыя сярод непаўналетніх што праўда ахоплівае толькі некаторыя раёны павета як: г. Бельск, Храбалы, Орля і Бранск. Прычым злачынства супраць жыццю і здароўю грамадзян найчасцей сустракаюцца ў раёнах Вышак, Храбалоў і Даманова.
Каб магчы супрацьдзейнічаць гэткай сітуацыі сярод непаўналетніх, органы міліцыі правялі падрабязны аналіз. Аказалася, што **найчасцей злачынстваў дапускаюцца дзеці многадзетных сем'яў, сіроты, дзеці алкаголікаў і бацькоў, якія вядуць распушчаны спосаб жыцця.** У сувязі з гэтым апека над дзяцьмі слабая або зусім яе няма. Адным словам, прычыны злачынстваў непаўналетніх суб'ектыўныя і аб'ектыўныя. Каб у меру магчымасці скаардынаваць усе намаганні, Павятовая камендатура міліцыі ў Бельску перадала адпаведныя прапановы Аддзелу асветы, які павінен прыйсці з дапамогай так у сэнсе выхаваўчай апекі, як і матэрыяльнай. Паклікана таксама спецыяльную камісію, у склад якой увайшлі настаўнікі, прадстаўнікі маладзёжных арганізацый і міліцыянеры. Будзе яна займацца справамі непаўналетніх. (ак)

